

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 592 Чэрвень-Ліпень,
2012г. Год выданьня 63

## Шаноўныя чытачы!

Прадстаўляем вам сёлетні летні выпуск газэты, гэта здвоены нумар за чэрвень-ліпень. Наступны нумар газэты выйдзе на пачатку верасьня.

На летнія месяцы прыпадаюць сьвяты: у Амэрыцы – Дзень незалежнасьці 4 ліпеня, у Беларусі таксама так званы "Дзень незалежнасьці" 3 ліпеня, а да таго і наша нацыянальнае сьвята – Купальле. Пра тое, як адзначаліся гэтыя адметныя даты, вы знойдзеце інфармацыю на старонках газэты. Падалі мы таксама зьвесткі пра важныя палітычныя падзеі, якія тычацца Беларусі. Раім вам прачытаць даволі аб'ёмную інфармацыю пра "Плюшавую агрэсію" на Беларусь. Такую назву атрымала незвычайная акцыя маладых швэдаў, якія арыгінальным спосабам вырашылі аказаць падтрымку тым, хто змагаецца з дыктатураю. Можна толькі дзівіцца, якіх адважных сяброў у сьвеце мае дэмакратычная грамадзкасьць ў Беларусі. Яны здолелі паказаць дыктатару, што ён ня можа адчуваць сябе ў бясьпецы, што людзі ў іншых краінах думаюць пра Беларусь.

Працягваем у выпуску рубрыку "Жанчыны беларускага замежжа". Гэтым разам мы распавядаем пра сп. Юлю Андрусышын зь Нью-Ёрку, такім чынам мы павіншавалі яе са слаўным юбілеем, які сп. Юля адсьвяткавала ў чэрвені.

Не абыйшліся мы ў гэтым нумары бяз сумных паведамленьняў. Вялікім болем адгукнулася ў сэрцах усіх тых, хто пачыналі ў 80-х гадох новае беларускае Адраджэньне, вестка пра адыход у вечнасьць Сяргея Вітушкі. Мы ўшанавалі ягоную памяць публікацыяй адной з казак з апошняй кнігі Сяргея.

У газэце вы знойдзеце іншыя цікавыя, а часам і нечаканыя зьвесткі. Просім вас зьвярнуць увагу на паведамленьне пра хуткую Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта і замовіць свой удзел у ёй, каб пабачыцца ды падзяліцца навінамі са старымі сябрамі і набыць новых.

Чакаем ад нашых чытачоў новых цікавых паведамленьняў, допісаў, абмену думкамі па актуальных тэмах. Пішыце нам, дасылайце фота, а мы пастараемся, каб гэта ўсё было апублікавана на старонках газэты.

Да новай сустрэчы!

*Рэдакцыя*

# ЗША адсьвяткавалі Дзень Незалежнасьці

Дзень 4 ліпеня назаўсёды ўвайшоў у гісторыю ЗША як найвялікшае сьвята амэрыканскага народу. Гэта – Дзень Незалежнасьці (Independence Day).

4 ліпеня 1776 году Другі Кантынэнтальны кангрэс, які прадстаўляў 13 брытанскіх калёній на ўсходнім узьбярэжжы Паўночнай Амэрыкі ўхваліў Дэклярацыю аб незалежнасьці ад брытанскай кароны. У гэты час ужо два гады калясты вялі вайну за незалежнасьць ад Вялікабрытаніі. Дэклярацыю аб незалежнасьці падрыхтаваў «Камітэт пяці» на чале з Томасам Джэферсанам, які потым стаў трэцім прэзыдэнтам краіны.

Кожны год амбасады ЗША па цэлым сьвеце ладзяць ўрачыстыя прыёмы ў гонар Дня незалежнасьці, гэтую традыцыю трымае і амбасада ЗША ў Беларусі. Сёлета на ўрачыстасьці з прамоваю выступіў часовы паверані ў справах ЗША ў Беларусі сп. Майкл Скэнлан, пад час якой згадаў пра даўнія гістарычныя сувязі Амэрыкі зь Беларусьсю і сучасныя стасункі паміж краінамі: «Гісторыя Амэрыкі - гэта ў пэўнай ступені гісторыя эмігрантаў у пошуках лепшай будучыні. Такія беларусы, як Тадэвуш Касьцюшка, Дэвід Сарноф, Барыс Кіт, зь іх прагай перамен, дапамагалі будаваць маю краіну.

Беларускую і амэрыканскую гісторыю таксама аб'ядноўваюць агульныя каштоўнасьці. Напрыклад, Беларусь была сярод першых у спрыяньні рэлігійнай свабодзе, што было выключнай справай для Эўропы XVI стагодзьдзя. Статут Вялікага Княства Літоўскага быў істотна важным для вяршэнства права, а Магдэбурскае права давала грамадзянам магчымасьць самастойна кіраваць сваімі гарадамі.

У студзені мы адзначылі 20-ю гадавіну заснаваньня амэрыканскай амбасады ў Менску. У нашых двухбаковых стасунках былі і пад'ёмы, і спады. Але Злучаныя Штаты заўсёды імкнуліся будаваць адносіны, грунтуючыся на агульных каштоўнасьцях, якія ў сваім, без сумневу, эўрапейскім мінулым падзяляла Беларусь.

У 2010 годзе мы спадзяваліся, што Беларусь паступова вяртаецца да гэтых каштоўнасьцяў. Напрыклад, у сьнежні беларускі ўрад прызнаў у сумеснай заяве са Злучанымі Штатамі, што "большая павага дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі ... жыцьцёва важная для разьвіцьця краіны і яе грамадзянаў".

У 2010 годзе мы таксама бачылі прыкметы лібэралізацыі, уключна з больш адкрытай, прынамсі напачатку, прэзыдэнцкай кампаніяй. Аднак рэпрэсіі пасьля выбараў, якія дагэтуль не спыніліся, разьбілі гэтыя надзеі. На жаль, некаторыя нашы госьці не змаглі да нас далучыцца,



таму што несправядліва зьняволеныя.

Спадзяюся, што Беларусь вернецца да агульных каштоўнасьцяў, якія падзяляла ў сваім годным мінулым».

Злучаныя Штаты, як ніякая іншая краіна, пасьлядоўна выступаюць ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі. Здабыўшы незалежнасьць для сваёй краіны 4 ліпеня 1776 году, амэрыканцы з таго часу трымаюцца прынцыпу, што незалежнасьць – гэта найвышэйшая каштоўнасьць для кожнай дзяржавы і што трэба дапамагаць іншым народам, якія змагаюцца за сваю дзяржаўную незалежнасьць, свабоду і дэмакратыю.

«Божа, дабраславі Амэрыку!» З удзячнасьцю Амэрыцы і яе народу напісаў такія словы ў сваім гімне гэтай краіне эмігрант зь Беларусі слаўны амэрыканскі кампазітар Ірвінг Бэрлін. Мяркую, што пад гэтымі словамі падпішуцца многія і многія ранейшыя і сучасныя беларускія эмігранты, якія тут знайшлі сваю другую радзіму.

Для мяне асабіста 4 ліпеня - падвойнае сьвята, гэта і мой дзень народзінаў. Выглядае, што свайго лёсу не мінеш, ад нараджэньня мне было наканавана жыць у гэтай найлепшай краіне сьвету, вядома, пасьля маёй Бацькаўшчыны – Беларусі.

*Ганна Сурмач*

# Абама прадоўжыў санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў



Прэзыдэнт ЗША Барак Абама прадоўжыў санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў, якія былі ўведзеныя ЗША летам 2006 году.

Пра гэта паведамлена ў пасланьні Абамы Кангрэсу, які зьмясьціў афіцыйны сайт амэрыканскага прэзыдэнта.

У лісьце Абамы пішацца: «У 2011 годзе ўрад Беларусі працягваў перасьледаваць палітычную апазыцыю, грамадзянскую супольнасьць і незалежныя СМІ. Улады адвольна арыштоўвалі, затрымлівалі і зачыналі ў турмы грамадзянаў за крытыку службовых асобаў ці за ўдзел у дэманстрацыях, зьняволілі прынамсі аднаго абаронцу правоў чалавека па сфальшаваным абвінавачаньні і перашкаджалі ў працы незалежных СМІ. Гэтыя дзеяньні сьведчаць пра тое, што беларускія ўлады зрабілі некалькі крокаў назад, што тычыцца дэмакратычнага кіраваньня і пашаны правоў чалавека.

Дзеяньні і палітыка прадстаўнікоў беларускіх уладаў і іншых асобаў, якія падрываюць дэмакратычныя працэсы і інстытуты, парушаюць правы чалавека праз палітычныя рэпрэсіі і падтрымліваюць карупцыю, па-ранейшаму ўяўляюць незвычайную і надзвычайную пагрозу для нацыянальнай бясьпекі і зьнешняй палітыкі Злучаных Штатаў. З гэтай прычыны я вырашыў, што неабходна прадоўжыць меры нацыянальнай бясьпекі, каб супрацьдзейнічаць гэтай пагрозе, ды захады, зьвязаныя з блякаваньнем уласнасьці пэўных асобаў».

Нагадаем, што 16 чэрвеня 2006 году тагачасны прэзыдэнт ЗША Джордж Буш распарадзіўся заблякаваць уласнасьць і актывы 10 прадстаўнікоў кіраўніцтва Беларусі: Аляксандра Лукашэнкі, Віктара Лукашэнкі, Лідзіі Ярмошынай, Віктара Галаванава, Віктара Шэймана, Дзьмітрыя Паўлічэнкі, Сьцяпана Сухарэнкі, Аляксандра Зімоўскага, Уладзіміра Навумава, Натальлі Пяткевіч.

*Радыё Свабода*
*14.06.2012*

# Лукашэнка пашырае экспансію ў Лацінскую Амэрыку




Напрыканцы чэрвеня Аляксандар Лукашэнка наведаў адразу тры паўднёва-амэрыканскія краіны: Кубу, Вэнэсуэлу і Эквадор, якія праводзяць ляяльную да беларускага рэжыму палітыку. Паводле яго прэс-службы, пад час сустрэчаў абмяркоўваліся гандлёва-эканамічныя адносіны, палітычны дыялёг, супраца зь іншымі краінамі лацінаамэрыканскага рэгіёну. Як і пад час іншых сваіх афіцыйных візытаў у замежжа Лукашэнка ўзяў з сабою свайго сына Колю, які паўсюдна быў зь ім пад час афіцыйных і неафіцыйных сустрэчаў.

Пад час перамоваў са старшынём Дзяржаўнай Рады і Рады міністраў Кубы Раулем Кастра Лукашэнка заявіў, што Беларусь гатова пастаўляць на Кубу сельскагаспадарчую і іншую тэхніку, далучыцца да мадэрнізацыі нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў і энэргетычнай сыстэмы вострава, геалягічнай выведкі. Беларусь і Куба павінны пераходзіць ад простага гандлю да больш складаных форм эканамічнага супрацоўніцтва, – заклікаў Лукашэнка кубінскага лідэра.

З усіх дзяржаваў Лацінскай Амэрыкі Беларусь найбольш цесна супрацоўнічае з Вэнэсуэлай, таму і чарговая сустрэча Лукашэнкі зь сябрам Уга Чавэсам была асабліва дружалюбнаю. Лукашэнка наведваў Вэнэсуэлу ў сьнежні 2007 года і ў сакавіку 2010. Чавэс прыяжджаў у Беларусь у ліпені 2008, верасьні 2009 і кастрычніку 2010 гадоў.

Паводле інтэрвію Лукашэнкі тэлеканалу «Вэнэсаляна дэ тэлевісьён», Беларусь плянуе ўдзельнічаць у здабычы ў Вэнэсуэле прыродных выкапняў, у прыватнасьці фасфарытаў. Беларусь таксама зьбіраецца стварыць у Вэнэсуэле велізарны цэнтар па зьмешваньні калійных ўгнаеньняў і продажы іх на ўвесь рэгіён Лацінскай Амэрыкі.

Беларусь, паводле Лукашэнкі, разглядае Вэнесуэлу як пляцдарм для працы ва ўсім рэгіёне Лацінскай Амэрыкі. «І я прапаноўваў свайму сябру Чавэсу, каб ён разглядаў Беларусь як пляцдарм (у добрым сэнсе) па эканамічнай экспансіі ў Эўропу», — дадаў Лукашэнка.

Падчас сустрэчы з прэзыдэнтам Вэнэсуэлы Уга Чавэсам Аляксандар Лукашэнка ці то жартам, ці то сур'ёзна сказаў, што прывёз малодшага сына Мікалая ў Каракас, каб было каму пераняць эстафэту супрацоўніцтва са стратэгічным саюзьнікам праз 20–25 гадоў.

Некаторыя аналітыкі лічаць, што да падобных заяваў трэба ставіцца як да рэальнага жаданьня Лукашэнкі яшчэ чвэрць стагодзьдзя кіраваць краінай, пасьля чаго перадаць уладу ў «надзейныя рукі».

Што да Эквадору, то супраца з гэтаю краінаю толькі пачынаецца, па інфармацыі беларускіх дзяржаўных крыніцаў Лукашэнка павёз туды шэраг пэрспэктыўных праектаў. Беларускія СМІ паведамілі, што ў сумесным камюніке па выніках перамоваў Аляксандар Лукашэнка і прэзыдэнт Эквадора Рафаэль Карэа Дэльгада адзначылі неабходнасьць рэфармаваньня і дэмакратызацыі ААН.

Яны таксама дамовіліся праводзіць палітыку ўзаемнай падтрымкі ініцыятываў і кандыдатур абедзьвюх краін у рамках міжнародных арганізацый і пацьвердзілі свае абавязацельствы адносна прасоўваньня ідэй ўсеагульнага раззбраеньня і зьнішчэньня зброі масавага паражэньня.

Як зафіксавалі венесуэльскія блогеры, Коля Лукашэнка пад час гэтага ваяжу па Лацінскай Амэрыцы ўсюды хадзіў зь пісталетам, на паявлічаных фотаздымках было відаць, што зброя выразна абазначалася на поясе пад пінжаком. Залаты пісталет падараваў маломy былы прэзыдэнт Расеі Дзьмітры Мядзьведзеў. Такі вось падарунак сямігадоваму дзіцяці. Выглядае, што нават у сяброў Лукашэнка не пачуваўся ў бясьпецы, калі дазваляў сыну хадзіць са зброяю.



# Інтарэсы Беларусі ў Брусэлі прадстаўляла Рада БНР

У Брусэлі ў Эўрапарлямэнце адбылася міжнародная канфэрэнцыя «Прававое ўрэгуляваньне злачынстваў камунізму». Гэта ня першая міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная палітычнаму і юрыдычнаму аналізу злачынстваў камунізму. Цягам апошніх гадоў гэты форум пераўтварыўся ў своеасаблівы сталы ворган — з удзелам палітыкаў, навукоўцаў, актывістаў праваабарончых арганізацыяў. У 2008 годзе ў Празе ўдзельнікаў канфэрэнцыі вітаў Вацлаў Гавэл, ганаровым госьцем і выступоўцам была старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла. У лютым 2010 году, таксама ў сталіцы Чэхіі, з дакладам аб прававых аспэктах камуністычных злачынстваў у Беларусі выступаў Зянон Пазьняк.

Сёлета арганізатарам канфэрэнцыі выступіў Эўрапарлямэнт, удзельнікі сабраліся ў Брусэлі. Сваё прывітаньне ўдзельнікам канфэрэнцыі даслала старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, якая адзначыла, што ў Беларусі цягам дзесяцігодзьдзяў фізычнае зьнішчэньне людзей камуністычнай сыстэмай спалучалася з сыстэматычнай русіфікацыяй, здушэньнем мовы, культуры, нацыянальных адметнасьцяў. «Беларусь і сёньня пакутуе ад кіраваньня прамых палітычных наступнікаў камуністычнага рэжыму», — адзначыла Івонка Сурвілла.

На канфэрэнцыі з дакладам «Да пытаньня аб прававым урэгуляваньні злачынстваў камунізму: беларуская пэрспэктыва» выступіў намесьнік сакратара замежных справаў Рады БНР Мікола Пачкаеў (Лёндан). Ён нагадаў, што «дэмакратычная беларуская дзяржава была абвешчаная цалкам незалежнай 25 сакавіка 1918 году. БНР была прызнаная некалькімі дзяржавамі, але ў выніку недахопу падтрымкі з боку вялікіх дзяржаў таго часу, у пачатку 1919 году БНР была захопленая Чырвонай Арміяй Савецкай Расіі, яе дзяржаўныя інстытуцыі выправіліся ў выгнаньне. Беларусь была абвешчаная савецкай рэспублікай. Затым яна была падзелена паміж Савецкай Расеяй і Польшчай паводле Рыжскай мірнай дамовы ў 1921 годзе. Лялечная БССР была адноўленая на ўсход ад гэтай мяжы, уключаная ў склад СССР і зазнала бальшавіцкі і сталінскі тэрор. З 1929 году камуністычныя "сацыяльныя чысткі" ў Беларусі былі дапоўненыя сыстэматычным перасьледам і зьнішчэньнем нацыянальнай адукаванай часткі народу. Пасьля верасьня 1939 г., тая самая доля напаткала заходнія раёны Беларусі. Рэпрэсіі працягваліся і пасьля Другой усясьветнай вайны. Агульная колькасьць ахвяраў, якія можна прасачыць па дакумэнтальных спасылках, у цяперашні час ацэньваецца прыкладна ў 700 000, г. зн. каля 10% насельніцтва. Колькасьць забітых у Курапатах пад Менскам, часткова раскапаных ў 1988 годзе, паводле ацэнак, налічвае больш 150 000 ахвяраў. Ганеньні на дысыдэнтаў і нацыянальных палітыкаў у Беларусі працягваліся ў розных формах аж да канца перабудовы».

Мікола Пачкаеў таксама нагадаў, што ў 1990-1991 дэпутацкая група БНФ у Вярхоўным Савеце дамаглася прыняцьця некаторых прававых нормаў у дачыненьні да ахвяраў рэпрэсій, аднак пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі, у 1995 годзе, ахвяры былі пазбаўленыя ільготаў. Цяперашнія рэпрэсіі ў Беларусі зрабіліся магчымымі ў тым ліку і таму, што ў Беларусі, у адрозьненьне ад шмат якіх краінаў Усходняй Эўропы, камуністычная сыстэма не была асуджаная.

Значная частка выступу прадстаўніка БНР была прысьвечаная прававой ацэнцы злачынстваў камунізму. На думку Міколы Пачкаева, у выпадку зь Беларусьсю можна казаць пра юрыдычны тэрмін «бесьперапыннасьці» камуністычных злачынстваў — паколькі адбылося аднаўленьне элемэнтаў камуністычнай сыстэмы.

Ад імя Сакратарыяту замежных справаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Пачкаеў прапанаваў увесьці ў Эўразьвязе судовую адказнасьць за злачынствы камунізму бяз тэрміну даўніны. Рада БНР у выгнаньні будзе заклікаць будучую дэмакратычную ўладу ў Беларусі падтрымаць стварэньне міжнароднага суду за злачынствы камунізму і камуністычных злачынстваў вытворных, бяз тэрміну даўніны. «Мы лічым, што прызнаньне юрысдыкцыі судовага органу павінна быць абавязковай умовай для любой дзяржавы, якая хоча ўступіць у пагадненьне аб асацыяцыі альбо далучэньні да Эўразьвязу, ці ўступаць у іншыя тыпы пагадненьняў з ЭЗ», — заявіў у Брусэлі прадстаўнік Рады БНР.

*Радыё Свабода*

# Арышт Андрэя Пачобута



21 чэрвеня быў арыштаваны гарадзенскі журналіст Андрэй Пачобут, карэспандэнт «Газэты Выборчай», актывіст Саюзу палякаў у Беларусі. Яму прад'явілі традыцыйнае абвінавачаньне – абраза гонару прэзыдэнта ў ягоных публікацыях. Андрэй ужо адседзеў некалькі месяцаў за кратамі па артыкуле 367 "Паклёп на прэзыдэнта". Ён быў асуджаны да пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай да трох гадоў. І цяпер у дачыненьні да яго будзе прымяняцца кваліфікацыя па другой частцы артыкулу — як да асобы, якая раней зьдзяйсьняла падобныя злачынствы. Усё ўскладняецца тым, што новая крымінальная справа ўзбуджаецца ў пэрыяд, калі ня скончылася адтэрміноўка па папярэдняй крымінальнай справе. Цяпер яму пагражае ад 3 да 5 гадоў пазбаўленьня волі.

30 чэрвеня журналіста выпусьцілі з гарадзенскай турмы пад падпіску аб нявыезьдзе.

# Парад у Менску



3 ліпеня Беларусь сьвяткавала прыдуманы Аляксандрам Лукашэнкам "Дзень незалежнасьці", які раней традыцыйна адзначаўся як дзень вызваленьня Менску ад нямецкіх захопнікаў. Тут Лукашэнка, відаць, не ўтрымаўся ад спакусы "даць фору" Амэрыцы - хоць на адзін дзень апярэдзіць амэрыканскі Дзень незалежнасьці 4 ліпеня.

Галоўнаю часткаю сьвята быў вайсковы парад, які Лукашэнка прымаў разам з сынам Колем, але гэтым разам абодва былі апрануты ў цывільнае. Нацешыліся ўжо бутафорскімі вайсковымі формамі.

4000 вайскоўцаў строем прайшлі перад Лукашэнкамі.

Вайсковая частка параду заняла гадзіну, тады як летась уклаліся за 45 хвілін. Фізкультурнае шэсьце нагадвала леташняе: з элемэнтамі карнавалу і масавымі танцамі. Вакол праспэкту Машэрава назіраць за парадам сабралася нашмат больш людзей, чым летась. У адрозьненьне ад мінулага году, не было публічных пратэстаў і затрыманьняў, шматлікія ахоўнікі не дапусьцілі ніякіх пратэстантаў.

# Ангельскія газэты пра Беларусь

У ангельскім жаночым часапісе "Grazia" за 28 траўня 2012 г. былі зьмешчаны фотаздымкі украінскай фемінісцкай групы "Femen", вядомай тым, што яны ладзяць акцыі пратэсту ня толькі ў абарону правоў жанчын, але і з палітычным зьместам, скіраваным супраць дыктатуры і за абарону правоў чалавека. Чатыры маладыя дзяўчыны на фота трымаюць плякаты з такімі надпісамі на ангельскай мове, у перакладзе:

"Не заахвочвайце дыктатара!", "Адклікайце чэмпіянат ад дыктатуры!", "Рабы ня могуць гуляць у хакей!", "Лукашэнка, давайце згуляем у Гаазе!". Як бачна, усе чатыры заклікі тычацца Беларусі.

Газэта "The daily Telergraph" за 29 траўня ў сваім дадатку напісала пра тое, што на кінафэстывалі ў Канах прыз Міжнароднай асацыяцыі кінакрытыкаў здабыў фільм "У тумане", пастаўлены рэжысэрам-беларусам па творы Васіля Быкава. У гэтай жа газэце за 8 чэрвеня быў зьмешчаны артыкул украінкі Марыны Лявіцкай пра сытуацыю ва Ўкраіне, дзе гаворыцца, што прэзыдэнт Украіны Віктар Януковіч сваёй палітыкаю "...паставіў Украіну ў той жа шэраг, як Беларусь, Казахстан, Зімбабве і Баграйн".

*Міхась Швэдзюк, Англія*

# Плюшавая агрэсія



*Раніцай у сераду, 4 ліпеня, швэдзкае выданьне The Local паведаміла, што грамадзяне гэтай краіны з самалёта скінулі на Беларусь амаль тысячу плюшавых мядзьведзікаў са словамі падтрымкі дэмакратыі і свабоды ў нашай краіне.*

*Хутка ў інтэрнэце зьявіліся відэазапісы, на якіх зь невядомага самалёта скідваюцца нейкія рэчы. Адзін фрагмэнт відэа зьняты ў кабіне пілёта, на другім, дзе самалёт бачна ў небе, — можна пазнаць горад Івянец Менскай вобласьці.*

*У чацьвер 5 ліпеня міністэрства абароны Беларусі заявіла агенцтву БелТА, што «скандальнае відэа пра палёт швэдзкіх пілётаў над Беларусьсю зьяўляецца груба сфабрыкаванай правакацыяй».*

*Аднак прадстаўнік вайскова-паветраных сілаў Літвы пацьвердзіў выданьню Lietuvos rytas, што ў сераду ў Літве выяўлена парушэньне паветранай прасторы.*

*Пра чорныя пакункі паведаміла жыхарка Івянца Сьвятлана Турко. Яе выклікалі ў міліцыю, дзе яна пабачыла некалькі тых самых пакункаў, у якіх сапраўды знаходзіліся парашуты з прымацаванымі цацачнымі мядзьведзікамі і цыдулкамі на замежнай мове. Самалёт над Івянцом бачылі шмат жыхароў гэтай мясцовасьці.*

*А тым часам карэспандэнт Радыё Свабода Рыкард Юзьвяк пагутарыў з Томасам Мазэці, пілётам, які раскрыў падрабязнасьці таго, як 4 ліпеня ён ажыцьцявіў палёт на Беларусь і «высадзіў мядзьведжы дэсант» у Івянцы і ў Менску:*




**Юзьвяк:** Томас, Вы былі пілётам гэтага самалёту. Чаму вы гэта зрабілі? Чаму вы ўзялі ў гэтым удзел?

**Мазэці:** Мы ўзялі ў гэтым удзел, бо наша праца палягае на дапамозе кампаніям, якія хочуць зьвярнуць на сябе ўвагу ў СМІ. І грошы, якія мы зарабляем на такой дапамозе, мы выкарыстоўваем для таго, каб зьвярнуць увагу СМІ на пытаньні, якія мы лічым важнымі. А сытуацыя ў Беларусі зьяўляецца адным з такіх пытаньняў.

**Юзьвяк:** Томас, скажыце некалькі словаў пра вашу кампанію. Яна фінансуецца з публічных грошай, ці гэта прыватная кампанія?

**Мазэці:** Гэта прыватная кампанія. Але ўсе грошы, якія мы зарабляем, мы прызначаем на справы, у якія мы верым.

**Юзьвяк:** У паведамленьнях пра ваш палёт было сказана, што вы заляцелі ў Беларусь зь Літвы. Адкуль зь Літвы?

**Мазэці:** Гэта было малое лётнішча, якое называецца Пацюнай (Pociūnai).

**Юзьвяк:** Зьявіліся паведамленьні, у якіх літоўскія ўлады кажуць, што яны глядзяць на гэты інцыдэнт як на магчымае парушэньне паветранай прасторы Літвы. Вы пра гэта ведаеце?

**Мазэці:** Не. Але мы, безумоўна, усьведамлялі, што з гэтага можа ўзьнікнуць праблема. Я ўзяў з сабою сваю ліцэнзію пілёта, іншыя асобы зрабілі таксама. Мы рыхтавалі гэты палёт цэлы год, на гэта пайшло шмат грошай. Мы рабілі ўсё так, каб не парушыць літоўскага заканадаўства.

**Юзьвяк:** Ці ня думаеце, Томас, што гэта ўсё ж была небясьпечная задума, калі прыгадаць, што над Беларусьсю гадоў 15 таму зьбілі паветраны шар з двума пілётамі, і абодва яны загінулі? І ў Беларусі разьмешчаныя дзьве расейскія вайсковыя базы...

**Мазэці:** Так... Мы ўсьведамлялі такую небясьпеку, і мы разгледзелі шмат іншых варыянтаў такой акцыі. Я асабіста размаўляў са шматлікімі экспэртамі. Але адначасова мы ўсьведамлялі, што насамрэч няма іншага спосабу, каб зрабіць тое, што мы зрабілі. Таму якраз і СМІ гавораць цяпер пра нас.

**Юзьвяк:** Калі вы ляцелі, гэта быў Дзень незалежнасьці ў Беларусі, і ў паветры лётала шмат самалётаў і бяз вас. Ці ня думаеце, што ў гэтым была дадатковая рызыка?

**Мазэці:** Не, вы тут памыляецеся. Мы вылецелі раніцай наступнага дня, 4 ліпеня, якраз наўмысна, бо ведалі, што папярэдняга дня ўсе беларускія пілёты будуць лётаць, а вечарам будуць сьвяткаваць і вып'юць за сьвяточным абедам шмат гарэлкі... Так што мы тут разьлічвалі, што нараніцу афіцэры і ўсё вярхоўнае камандаваньне Беларусі ня будуць у добрай форме...

**Юзьвяк:** А што вы скажаце на афіцыйную рэакцыю беларускага боку, які кажа, што гэта хлусьня і што нічога з таго, пра што вы кажаце, не адбылося?

**Мазэці:** Я думаю, што яны добра ведаюць, што мы заляцелі да іх. Мы праляцелі вельмі нізка над літоўска-беларускай мяжой, і мы нават бачылі беларускіх вайскоўцаў на памежным пункце. Я думаю, яны нас проста не заўважылі. Але мы зьнялі ўвесь наш палёт на відэа.

**Юзьвяк:** Вы апублікуеце гэтыя здымкі?

**Мазэці:** Так. Мы гэта зробім праз гадзіну або неяк так. Мы ўжо апублікавалі некаторыя з гэтых здымкаў у Aftonbladet і іншых крыніцах. Але ўвесь наш сыры матэрыял мы мяркуем апублікаваць толькі цяпер...

**Юзьвяк:** Ці вы думаеце, што ваша акцыя насамрэч дапаможа беларускай апазыцыі?

**Мазэці:** У кожным разе, я ня думаю, што яна ёй пашкодзіць. Сытуацыя ў Беларусі не мянялася на працягу амаль 20 апошніх гадоў. А апошнім часам яна значна пагоршала. Я прынамсі маю надзею, што нейкім чынам мы пасядзейнічалі беларускай апазыцыі, што сьвет памятае пра яе.

**Юзьвяк:** Ці вы захацелі б зрабіць гэта яшчэ раз?

**Мазэці:** Не. Мы цяпер зрабілі дакладна тое, што заплянавалі, але гэта каштавала нам столькі стрэсу, што другі раз паўтарыць гэтага ня хочацца... Але я думаю, што калі пра гэта даведаецца ўвесь сьвет і беларускія ўлады ўжо ня змогуць казаць, што нічога такога не адбылося, дык будуць нейкія зьмены ў беларускім урадзе. Калі нямецкі пілёт праляцеў над Савецкім Саюзам і прызямліўся на Краснай плошчы, палова кіраўніцтва савецкай паветранай абароны была звольненая са сваіх пасадаў... У пэўным сэнсе той палёт стаўся часткай дэмакратычнага руху таго часу. Людзі ўсьвядомілі, што ўвесь той агромністы вайсковы комплекс можна перамагчы такім сьмешным чынам.

*Шведка Ханна Ліна, якая была другім пілётам у гэтай акцыі, распавяла Эўрарадыё, як яны рыхтавалася да "бамбардзіроўкі" цацкамі і патлумачыла, як самалёт змог пераляцець мяжу незаўважаным.*

**Еўрарадыё:** Чаму вырашылі праляцець на самалёце і высадзіць такі дэсант з плюшавых мядзведзяў?

**Ханна:** Моладзевы рух "Гавары праўду" зрабіў акцыю, калі цацкі пратэставалі супраць рэжыму. Мы таксама гэтым хацелі прыцягнуць увагу. Мы ведаем, што апазыцыя штодзень рызыкуе сабой, можа быць зьбітай.

**Еўрарадыё:** Ці адмыслова плянавалі вылет на 4 ліпеня?

**Ханна:** 4 ліпеня не было заплянаванай датай, але калі зразумелі, што гатовыя, то ўзгадалі, што за дзень да гэтага быў Дзень Незалежнасці і мы ведалі пра яго, таму выкарысталі гэты шанец.

**Еўрарадыё:** Ці баяліся ляцець у чужой паветранай прасторы? Ці быў нейкі плян, калі вас заўважаць?

**Ханна:** Так, мы вельмі баяліся, мы рэальна дапускалі, што можам патрапіць у турму за гэта. Але нам пашанцавала. Калі ляцелі над Беларуссю, вельмі баяліся, але ніякага пляну на выпадак зьбіцьця сродкамі паветранай абароны не было. І нават ня мелі парашутаў.

**Еўрарадыё:** Ці доўга рыхтаваліся да гэтага палёту?

**Ханна:** Мы рыхтаваліся да гэтага цэлы год: бралі лётныя ўрокі. Нас было 2 чалавекі на борце, абодва зь лётнымі сертыфікатамі, якія атрымоўвалі спэцыяльна для гэтага.

**Еўрарадыё:** Міністэрства абароны абвяргае інфармацыю, што нейкі самалёт незаўважна трапіў у беларускую паветраную прастору. Але вы кажаце, што яны ня проста змаглі гэта зрабіць, але яшчэ павольна цягнуліся над Беларусьсю паўтары гадзіны!

**Ханна:** Мы ляцелі на вельмі маленькім самалёце. У яго толькі адзін матор. Таму ён ляціць вельмі павольна. Хуткасьць каля 180 кілямэтраў за гадзіну. Мы былі ў беларускай паветранай прасторы 1 гадзіну 20 хвілін.

**Еўрарадыё:** Чаму высадка "дэсанту" адбылася на ўскрайку Менска?

**Ханна:** Мы даляцелі блізка да нейкай вайсковай базы, як нам падалося, калі падляталі да Менска. Таму мы разнэрваваліся і не паляцелі далей у горад, толькі па ўскраінах. У нашых плянах не было ляцець далей за Мінск, таму мы разьвярнуліся. А перад гэтым мы праляталі малую вёску Івянец, і мы даведаліся, што там

знаходзіцца вайсковая паветраная база. Раней мы ня ведалі, што яна там.

**Еўрарадыё:** Чаму вы зьвярнулі ўвагу менавіта на Беларусь?

**Ханна:** Я была ў Беларусі 2 разы, а другі чалавек 1 раз. Мы вельмі занепакоеныя свабодай слова. Мы лічым, што Беларусь - частка Еўропы, і яна даволі зачыненая краіна.

**Еўрарадыё:** Ці баіцеся цяпер наступстваў?

**Ханна:** Мы верым у тое, што гэта важна - быць сумленным і казаць тое, што ты думаеш. Я веру ў тое, што дэмакратычныя краіны мусяць не ігнараваць, калі ў такіх краінах, як Беларусь, ты ня можаш нешта сказаць.

*Газэта "Наша Ніва" на сайце 5 ліпеня апублікавала інтэрвію зь непасрэдным арганізатарам акцыі, які пагадзіўся адказаць на пытаньні.*

Шведы спачатку меркавалі захаваць інкогніта, але недаверлівая рэакцыя шведзкіх і беларускіх СМІ вымусіла іх раскрыцца. «Наша Ніва» напісала на мэйл, указаны на сайце шведзкай ініцыятывы, што ўзяла на сябе адказнасьць за сьмяротна рызыкоўную акцыю, і нам амаль адразу адказалі. Пэр Кромвэл (Per Cromwell) расказаў, што акцыю плянавалі год, пілот атрымаў правы лётчыка толькі тры тыдні таму. Што мяжу перасеклі ў «раёне такога выступу на карце», што сам ён дзяжурыў у Івянцы на машыне і вылецеў у Стакгольм першым рэйсам. У выпадку



зьбіцця машыны меркавалася схавацца ў шведзкай амбасадзе. Што з самалётам кантактавалі з аэрапорту Мінск-1 па-расейску, і шведы нічога не зразумелі, але ў выніку пабаяліся ляцець над рэзідэнцыяй Лукашэнкі, як задумвалі спачатку. Першым нашым пытаньнем было: ну і як яна, гэная сінявокая Беларусь з вышыні птушынага палёту? Уражвае?

— Яны [сябры Пэра, што былі ў самалёце] былі настолькі засяроджаныя, каб даляцець да Менска, што не ўглядаліся. Але калі мы два месяцы таму прыязджалі ў Менск, каб падрыхтавацца да прылёту на мясцовасці — то так. У вас фантастычна прыгожая краіна.

— Дык вы так доўга і старанна рыхтаваліся?

— Год! Амаль год!

— А дзе мядзьведзікаў узялі?

— Праз інтэрнэт купілі і пачапілі на іх цыдулкі.

— Дарэчы, як называецца гэтая мадэль?

— Самалёта?

— Мядзьведзіка.

— Гм… Мядзьведзь, проста мядзьведзь.

— Скажыце, а мяжу заўважылі, калі ляцелі? Неяк рэагавалі беларускія і літоўскія сыстэмы паветранага кантролю, армія на тое, што вы перасякалі граніцу ў два бакі?

— Ніяк! І гэта нас уразіла. Калі мы плянавалі, то разглядалі як асноўны сцэнар, што нас перахопяць, але ніхто нас не заўважыў. Цікава, што і мяжа Літвы, а гэта значыць і Еўрасаюзу, таксама непрыкрытая.

— А дзе канкрэтна самалёт перасёк граніцу?

— Я ня ведаю, як называецца тая мясцовасьць. Там такі… вялікі выступ на карце, тэрыторыя Літвы паўвостравам уразаецца ў Беларусь. [Дзевянішскі выступ маецца на ўвазе, дзе тэрыторыя Літвы клінам уразаецца ў Беларусь у Іўеўскім раёне Гродзенскай вобласьці. — НН] А пасьля там першы гарадок. Ня ведаю, як правільна ён вымаўляецца: Івановіч?

— Івянец.

— Вось, Івянец. Паводле дамоўленасьці, я дзяжурыў у Івянцы на машыне. Бо гэта найбліжэй да мяжы [па заплянаванай лініі палёту]. Плян быў такі: калі іх засякуць, то яны працягвалі б палёт. А калі прымусяць сядаць, то я павінен быў іх падабраць і кіравацца ў бок Менска, каб паспрабаваць дабрацца да шведзкага пасольства.

— Пасольства ведала пра вашу задуму?

— Што вы! Вядома, не. Мы ні з кім не гаварылі пра гэта. Мы нават між сабой баяліся камунікаваць унутры Беларусі, бо баяліся, што спэцслужбы перахопяць нашы размовы… Дык вось, Івянец ідэальна пасаваў, каб чакаць [Івянец, калі зірнуць на мапу Беларусі, сапраўды, ляжыць амаль роўна на лініі Дзевянішкі — Менск — НН]. Але ніхто самалёта не заўважыў і не перахапіў. І ён паляцеў на Менск.

— Спачатку «Афтанбладэт» — у артыкуле адразу пасля вашага палёту — напісала, што вы скінулі мядзьведзікаў на рэзідэнцыю Аляксандра Лукашэнкі. Але на відэа там не рэзідэнцыя, а поўдзень Менска.

— Так-так. Напісалі, бо мы плянавалі, што даляцім да цэнтру, да рэзыдэнцыі, і далі такую інфармацыю журналістам. Там, у цэнтры, наш чалавек дзяжурыў з фотаапаратам.

— Швед ці беларус?

— Швед. Мы свядома нікога зь беларусаў не прыцягвалі да сваёй акцыі, бо разумелі, што за гэта чалавеку можа пагражаць.

Дык вось, на падлёце да Менска пілёта стаў выклікаць аэрапорт, які ў цэнтры гораду [аэрапорт Мінск-1 — НН]. І яны пабаяліся ляцець на рэзідэнцыю.

— Што сказаў аэрапорт пілоту?

— У тым-то і штука, што пілёт не зразумеў, што яму казалі. Аэрапорт кантактаваўся па-расейску, а пілот расейскай не разумее. Вырашылі не рызыкаваць. Скінулі парашуцікі на жылыя кварталы і паляцелі назад.

— Адразу ў Швэцыю?

— Не, па дарозе прызямліліся ў Літве для дазапраўкі.

— У тых самых Пачунах (Pociunai)?

— У тых самых Пачунах. І спакойна даляцелі назад, і зноў ніхто іх не перахопліваў. І цяпер яны думаюць, што варта было ляцець і на рэзідэнцыю, што нічога не было б.

— Яны вярнуліся ў Літву, а вы?

— А я сходу — у Менск, у аэрапорт, і першым рэйсам — на Стакгольм.

— І вы хочаце сказаць, што вы самі прыдумалі такі плян, што вас не рыхтавалі ніякія спэцслужбы? У нас тут ужо некаторыя ствараюць тэорыі, што вас паслаў Пуцін, каб атрымаць аргумэнт у гандлі з Лукашэнкам.

— Ніхто нас не пасылаў. Ніякая дзяржава, ніякі ўрад ня ведалі пра нашу задуму. Наадварот, мы страшэнна баяліся, каб нейкая спэцслужба не перахапіла нашы перамовы і не сарвала наш плян. Гэта не была проста бравада. Гэта была акцыя падтрымкі апазыцыі ў Беларусі, падтрымкі свабоды слова. Мы рыхтаваліся, мы пра-



думвалі. Мы дазналіся, што 3 Ліпеня — гэта сьвята, і падумалі: на наступны дзень будзе пахмельле, большыя шанцы. Усё адно наш плян А заключаўся ў тым, што нас перахопяць і будуць садзіць. Але ніводнага зьнішчальніка за час пералёту не заўважылі.

— А калі б не садзілі, а зьбілі? Пра гісторыю з паветраным шарам ведаеце? Завяшчаньне напісалі хлопцы?

— (Зьбіты з панталыку.) Не, завяшчаньня не пісалі. Але мандраж быў. Яшчэ й які.

— А дзе вы ўзялі самалёт, калі не сакрэт?

— Купілі адмыслова паўтара месяца назад. За 20 тысяч еўра прыкладна. А зараз мы яго зноў прадамо, мусіць.

— Ужо былі прапановы? Машына ж аказалася надзейная.

— Так (сьмяецца). Можа, нам зараз удасца прадаць яе ўтрыдорага. Але калі будзе цікавасьць у нейкага музэю, то мы і за 1 еўра аддамо. Усё ж гэта цяпер найперш сымбаль барацьбы за свабоду слова. Дый пашкодзілі мы яго.

— Пашкодзілі?

— Мы яго перарабілі: у шкле вырабілі фортку, каб можна было адчыняць і скідаць мядзведзікаў.

— У «Нашу Ніву» акурат зьвярнуўся чытач, расказаў, што пайшоў шукаць і знайшоў мядзведзіка на даху свайго шматпавярховіка. Што б вы хацелі перадаць гэтаму чалавеку?

— Таму чалавеку і ўсім беларусам хачу перадаць: вы не адны. Ведайце, што беларусаў не забыліся. Хай сабе сусьветныя СМІ больш пішуць пра галівудзкіх зорак, а не пра тых, хто сядзіць у турмах, няхай... Ведайце: на Захадзе людзі памятаюць пра беларусаў.

*Аднак і пасьля гэтых відавочных доказаў, беларускае ваеннае ведамства працягвае гаварыць пра фальсыфікацыю акцыі, пра тое, што такое не магло здарыцца.*

*Аляксандр Лукашэнка пакуль не адрэагаваў на гэты выпадак, магчыма, ён адчуў рэальную небясьпеку, да яго дайшло, што не такі ён ужо абаронены ў сваіх Драздах. Задумаюцца і расейцы, якія выдаюць вялікія грошы на агульную супрацьпаветраную абарону зь Беларусьсю. Гэта сігнал і для Эўразьвязу, які мае вось такую неабароненую ўсходнюю мяжу. Падзея настолькі красамоўная, што нікому ня хочацца гаварыць пра яе, усе дзяржаўныя структуры зацікаўленыя ў тым, каб яе замаўчаць. Але, напэўна, сур'ёзныя наступствы яна будзе мець, так, як некалі меў вядомы палёт Руста да Крамля для савецкага ваеннага начальства. Аднак відавочна, што гэтая акцыя знаходлівых і сьмелых людзей ёсьць вялікаю падтрымкаю для тых, хто не прымае дыктатуру і змагаецца зь ёю.*

# Жанчыны беларускага замежжа

## Юля Андрусышын



Згадваючы імя Юлі Андрусышын шмат каму на эміграцыі ды ў Беларусі не трэба высьвятляць , каму яно належыць. Сп. Юлю добра ведаюць у замежжы і на Бацькаўшчыне, найперш, як маці знакамітага Данчыка, чыімі сьпевамі застаецца зачараваным кожны, хто пачуе яго цудоўны голас. У 1989 годзе, калі Данчык упершыню наведаў Беларусь, пад час канцэрту захопленыя слухачы кінуліся вітаць не толькі самога сьпевака , але і ягоную маці, якая выхавала свайго сына на чужыне глыбока сьвядомым беларусам і таленавітым выканаўцам беларускіх мелёдыяў. Я добра памятаю гэты момант. Сп. Юля прыгожая, элегантная , у чырвонай сукенцы сядзела ў ложы, каля якой імгненна сабраўся натоўп і дзяўчаты падаравалі ёй букет самых сапраўдных сініх-сініх васількоў. Была глыбокая восень і мяне уразіла – адкуль у гэты час можна было ўзяць гэтыя сьвежыя кветкі. Пасьля такі дазналася, што ў Батанічным садзе знайшлі.

Тое падарожжа з сынам на Бацькаўшчыну было першым для сп. Юлі пасьля разьвітаньня, калі яна пакінула свой родны кут на беразе Сьвіслачы ў Менску побач з сядзібаю Янкі Купалы улетку 1944 году. Было дзяўчынцы тады усяго 12 гадоў і чакаў яе наперадзе доўгі цярністы шлях праз пакуты і нястачы ў эміграцыю на ўсё астатняе жыцьцё.

Свой другі родны дом разам з сямьёю сп. Юля знайшла за акіянам – у Амэрыцы. Ад самага пачатку яны засяліліся у самым цэнтры "сталіцы сьвету" – Нью-Ёрку, цэлае жыцьцё сямьі сталася зьвязаным з Мангэттанам, дзе сп. Юля жыве і да сёньня. Яна палюбіла Амэрыку і Нью-Ёрк і не ўяўляе сабе жыцьця у іншым мейсцы. Яе ўтульная кватэра на 6-й вуліцы ўсходняга Мангэттану сталася прыветным сапраўдным беларускім куточкам для старэйшай і новай эміграцыі і для многіх гасьцей з Беларусі. Тут захоўваецца беларускі дух, тут здаецца пахне водарам траваў і кветак ад беларускіх краявідаў на сьценах, ад усяго беларускага, роднага, што сабрана і захоўваецца беражлівымі рукамі гаспадыні. У гэтай кватэры было заўсёды людна, нават у той час, калі тут жыла цэлая сямья. Муж сп. Юлі, сп. Павал, украінец, пакахаў беларускую дзяўчыну і пераняўся на цэлае жыцьцё беларускасьцю , ён шмат дапамагаў у беларускіх справах. Яны вырасьцілі двух сыноў Багдана (Данчыка) і Юрку, якія таксама з дзяцінства далучыліся да беларускага грамадзка-культурнага жыцьця ў Нью-Ёрку.

У віры амэрыканскага жыцьця, побач з сямейнымі і грамадзкімі клопатамі Юля Андрусышын знайшла і сваю ўласную дарогу ў справе захаваньня беларускай культуры на чужыне. Толькі пад час дзяцінства яна жыла ў Беларусі, але праз усё жыцьцё захавала моцны беларускі дух , высокую павагу да свайго роднага, бескампрамісна ішла гэтым шляхам. Яе глыбокая нацыянальная ідэнтычнасьць выявілася ў мастацтве беларускай вышыўкі. Я не магу назваць яе проста вышывальніцаю і не вітаю, калі гэта робяць іншыя, бо гэта не адпавядае рэальнасьці.

Сп. Юля ставілася да свайго захапленьня па мастацку творча. Яна шукала узоры і дапрацоўвала іх сама, дапаўняла і стварала свае вобразы. Яна сама прыдумвала, як лепш аздобіць вышыўкаю звычайныя побытавыя рэчы, адзеньне, упрыгожваньні. У ейнай калекцыі захоўваюцца аздобленыя узорамі альбомы, гальштукі, брошкі, падушкі, занавескі на вокны і шмат чаго іншага, не кажучы ўжо пра нацыянальнае адзеньне, настольнікі і сурвэткі. Гэтая калекцыя зрабіла б гонар кожнаму музэю ў Беларусі і будзем спадзявацца, што некалі так і станецца і ўсё гэтае мастацкае багацьце трапіць і будзе захоўвацца на Бацькаўшчыне. А сама мастачка вельмі сьціпла ацэньвае сваю творчасьць і сумняецца, што гэта можа некаму спатрэбіцца. Аднак, амаль у кожнай беларускай хаце ў Амэрыцы ёсьці Юліны вышыванкі.

Ад прыроды пільная, адказная, дакладная ў кожнай зробленай справе, Юля Андрусышын выявіла і яшчэ адну сваю вялікую здольнасьць да архіўнай працы. Яна праз цэлае жыцьцё зьбірала і вельмі беражліва захоўвала ў хаце беларускую бібліятэку, абразы, дакумэнты і фотаздымкі па гісторыі беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. Сёньня яна мае ўпарадкаваны і дагледжаны зьмястоўны архіў і мне, як архівісту, добра зразумела, якіх штодзённых клопатаў цягам гадоў каштавала гэтая праца. У сп. Юлі заўсёды можна знайсьці патрэбную кніжку ці фота, нейкі ліст , ці дыск з беларускімі песьнямі Данчыка і нышх беларускіх сьпевакоў, у яе багатая фільматэка беларускіх імпрэзаў, канцэртаў, сустрэчаў. Усё гэта мае неацэнную каштоўнасьць для вывучэньня гісторыі беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы , увогуле цэлай беларускай гісторыі і будзе патрабаваць у будучыні належнага захоўваньня.

Жывучы на чужыне людзям уласьціва старацца ладзіць кантакты са сваімі суайчыньнікамі, аказваць дапамогу адзін аднаму. У гэтых адносінах сп. Юля наўпрост узорны прыклад. Восем гадоў таму яна ўзяла на сябе цалкам клопат пра былую актыўную удзельніцу беларускага жыцьця ў Нью-Ёрку Раісу Станкевіч, якая засталася ў адзіноце і цяжка захварэла, а потым і ўвогуле сталася ляжачаю ў ложку. Сп. Юля вяла ўсе ейныя гаспадарчыя і фінансавыя справы, арганізоўвала пастаянны дагляд за хвораю. Можна было толькі зьдзіўляцца самаахвярнасьці сп. Юлі, з якою яна выконвала гэты надзвычай адказны абавязак такі працяглы час, хаця сама ўжо ў сталых гадах і мела праблемы з уласным здароўем, пахавала мужа і маці.

Таксама цягам многіх гадоў Юля дапамагала ў розных жыцьцёвых справах сп. Антону Шукелойцу і займаецца гэтым да сёньняшняга часу.

Нельга тут не згадаць і пра яшчэ адну "справу жыцьця" Юлі Андрусышын. Гэта многім вядомы і любімы – "Родны кут". Лецішча ў гарах пабудавана, дагледжана, упарадкавана руплівымі, працавітымі рукамі Юлі і ейнага мужа Паўла. Відаць, не знойдзецца нікога з нью-ёркскіх беларусаў , хто б не пагасьціў у гэтым цудоўным утульным куточку, не правёў у коле сяброў цёплыя летнія вечары каля вогнішча, не паспрабаваў бы малінаў з Юлінага агароду. На ўлоньні прыроды тут падрастала цэлае пакаленьне маленькіх беларусаў, чые бацькі належаць да новай беларускай эміграцыі. Тут заўсёды гучала толькі беларуская мова і панаваў беларускі дух, што спрыяла выхаваньню малых у нацыянальных традыцыях. Цяпер, калі сп. Юлі стала ўсё цяжэй даглядаць і утрымоўваць гэты фальварак, сэрца шчыміць, калі падумаеш, якая будучыня яго чакае – ці гэта будзе "раскіданае гняздо" ці ўсё ж знойдзецца нехта з маладзейшых ды адказных і гаспадарлівых беларусаў, хто набудзе гэты цудоўны беларускі асяродак і прадоўжыць традыцыю ды захавае ягоны дух і назву – "Родны кут".

Намаганьнямі Юлі Андрусышын сталася так, што і ейная кватэра ў Мангэттане, дзьверы якой заўсёды адчынены для беларускіх гасьцей, і "Родны кут" зрабіліся прыцягальнымі мейсцамі для сустрэчаў, сталіся своеасаблівымі прыватнымі цэнтрамі гуртаваньня новай беларускай эміграцыі ў Нью-Ёрку. А сама гаспадыня як бы спалучала старэйшае і новае пакаленьне эмігрантаў, перадавала вопыт амэрыканскага жыцьця маладым, вучыла ўласным прыкладам, як трэба захоўваць на чужыне сваё, нацыянальнае, свой гонар, сваю культуру і звычаі. Сама яна ўсё гэта пераняла ад сваіх продкаў, ад сваёй маці сп. Яніны Кахаyоўскай – актыўнай удзельніцы беларускага жыцьця на эміграцыі, ад сваёй бабулі – Эміліі Шабуні, роднай сястры знакамітых беларускіх нацыянальных і палітычных дзеячаў Івана і Антона Луцкевічаў. Сп. Юля ёсьць сёньня зьбіральніцаю і захавальніцаю сьведчаньняў пра гісторыю свайго роду. Яна застаецца душою гэтага вядомага беларускага роду , падтрымлівае пастаянныя зносіны са сваякамі ў Беларусі і іншых краінах, мае шмат сяброў і знаёмых на Бацькаўшчыне. Тэхніка цяпер дазваляе кантактаваць лягчэй і таму сп. Юлю часта можна застаць за кампутарам, калі яна размаўляе па скайпу з Данчыкам у Празе, са сваімі сёстрамі у замежжы, ці па тэлефоне з малодшай сястрою Элеанораю Норык, якая жыве на другім узбярэжжы Амэрыкі.

Сп. Юлі няма калі сумаваць, яна ўвесь час у працы і клопатах , можа таму і выглядае энэргічнай, малажавай у свае 80 гадоў. 19 чэрвеня сёлета яна адзначыла свой гэты слаўны юбілей. Ад імя ўсіх беларусаў у Нью –Ёрку, ад Рэдакцыі нашай газэты сардэчна віншуем сп. Юлю і жадаем ей добрага здароўя, заўсёднай духовай моцы, нязгаснай энэргіі і жаданьня заставацца добрым прыкладам для усіх нас, працягваць і далей сваё служэньне беларускай справе. У добры шлях да новага юбілею!

*Ганна Сурмач*

**Уладзімер Арлоў**

# Нязводны ген беларускасьці

У першую ж сустрэчу пры канцы 1980-х, калі Юля Андрусішына прыехала ў Беларусь з ужо знакамітым сынам Багданам-Данчыкам і мы гулялі разам па Полацку, а потым частаваліся вішнёўкай і дранікамі з душамі, я адчуў да далёкай госьці неверагодную сымпатыю. Нячаста даводзілася знаёміца з людзьмі, надзеленымі такой неверагоднай далікатнасьцю й дапытлівасьцю, шчырасьцю й сардэчнасьцю, такой любоўю да ўсяго роднага, беларускага.

З часам мая сымпатыя толькі мацнела, ператвараючыся ў глыбокую павагу й захапленьне. Пагатоў адбываліся новыя сустрэчы – і ў Беларусі, і ў Амэрыцы, дзе я зьведаў Юліну гасьціннасьць у ейнай кватэры ў Мангэттане, а потым і на горным лецішчы, дзе за дзесяць крокаў ад дому сядзеў у траве тамтэйшы непалахлівы зайчык, а над кветнікам кружлялі падобныя да нашых хрушчоў калібры.

Усё жыцьцё спадарыні Юлі, дачкі роднай пляменьніцы Івана і Антона Луцкевічаў -- Яніны Каханоўскай, вызначае нязводны ген беларускасьці. Яна любіць беларускія кнігі й песьні, асабліва сьветла-журлівы “Аксамітны вечар” у Данчыкавым выкананьні. Яна з трывогаю й надзеяй сочыць за падзеямі на Бацькаўшчыне. Яна верыць, што Беларусь вернецца ў сям’ю дэмакратычных народаў.

Юля кажа, што любіць Амэрыку, але натхняецца ўспамінамі пра родную зямлю. Кожны, хто бачыў ейныя цудоўныя вышыванкі, пагодзіцца, што іхняя аўтарка абсалютна шчырая. Усе аздобленыя таленавітымі Юлінымі рукамі сурвэткі, гальштукі, абрусы, ручнікі, сукенкі “прамаўляюць” па-беларуску. У дзівосных творах Юлі Андрусішынай вы знойдзеце толькі белыя і чырвоныя ніткі. Хочацца верыць, што яна дачакаецца дня, калі сьяг гэтых колераў зноў залунае над менскім Домам ураду.

100 гадоў Вам, дарагая спадарыня Юля!

## Валянціна Трыгубовіч:

### Дарагая спадарыня Юля!

*Сардэчна віншую Вас з днём нараджэньня!*

*Вы прыйшлі ў гэты сьвет цудоўным летнім днём, і хоць былі на жыцьцёвым шляху й навальніцы, і маразы, і лютыя вятры, у характары й паводзінах Вы заўсёды несьлі сонечнасьць і цеплыню. Колькі Вас памятаю, ясная ўсьмешка зьзяе на Вашым твары! Мяне захапляе Ваша маладая энэргія, Ваш аптымізм і нязьменная цікавасьць да людзей, іх клопатаў і праблемаў.*

*Зычу добрага здароўя й далейшай актыўнай працы на беларускай ніве!*

## Сям’я Юркі і Валянціны Хадыкаў:

### Дарагая, мілая спадарыня Юля!

*Шчыра віншую цябе з тваім Вялікім Юбілеем!*

*Жадаем здароў’я і, вядома, шчасьця табе і тваім сынам.*

*Заўсёды, гаворачы пра Амерыку, згадваем і вашу ўтульную, добразычлівую гасподу, поўную сяброў.*

*Заставайся па-ранейшым цэнтрам і душою беларускай суполкі Нью-Ёрка. Посьпехаў у захаваньні беларускай ідэнтычнасьці і многіх гадоў жыцьця!*

## Імпрэза ў Вашынгтоне



Імпрэза з нагоды 5-й гадавіны адкрыцьця Помніка ахвярам камунізму адбылася 13 чэрвеня ў Вашынгтоне. Беларускую грамадзкасьць прадстаўлялі там сяброўкі Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне – старшыня Алеся Кіпель і Ліда Рагуля.

*Алеся Кіпель*

## Беларускія навіны зь Севастопалю

10 чэрвеня 2012 ў Севастопалі на Гістарычным бульвары ляцела “Пагоня “ і лунालі бел-чырвона-белыя сьцягі. Так адметна ўдзельнічала севастопальская беларуская грамада ў сьвяце горада.

Ляканічная, але выразная экспазыцыя Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча “Пагоня” прыцягвала ўвагу многіх удзельнікаў і гасьцей сьвята. Гэтай выставаю Таварыства адзначала таксама 120-ю гадавіну ад нараджэньня паэта, 95-ю гадавіну ягонага адыходу ў вечнасьць і 15-ю гадавіну стварэньня арганізацыі.

У Статут Таварыства ад пачатку была уключана пазыцыя пра падтрымку сувэрэнітэту Беларусі. Сымбалямі былі абраныя нашы гістарычныя герб і сьцяг, а дэвізам стала “Жыве Беларусь!” і словы з верша Максіма Багдановіча, які стаў гімнам: “Старадаўняй крывіцкай Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!”.

Экспазіцыі нашага музэю пры Таварыстве распавядаюць пра творчасьць паэта, пра іншыя знакамітыя постаці беларускай нацыянальнай эліты, ранейшых і цяперашніх, хто сёньня ў Беларусі абараняе нацыянальныя каштоўнасьці і ўсё робіць дзеля таго, каб наша краіна была цывілізаванаю, эўрапейскаю дзяржаваю. Па мясцоваму радыё тут рэгулярна гучыць праграма на беларускай мове.

Ад імя нашага Таварыства мы вітаем і выказваем салідарнасьць з усімі беларусамі, хто трымае “Пагоню” у сваім сэрцы, дзякуючы каму яна ляціць над сьветам.

Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча “Пагоня”.

*Валер Барташ*

# А ў нас сёньня Купала...

## Купальле ў Амэрыцы



У суботу 23 чэрвеня беларусы Нью-Ёрку і Нью-Джэрзы ладзілі сьвяткаваньне Купальля ў Парку Ward Pound Ridge Reservation каля Cross River у Нью Джэрзы. Як і ўсе апошнія гады, галоўнымі арганізатарамі сьвяткаваньня была сям'я Пётры і Алены Рыжы і Валянціна Якімовіч.

Без перабольшваньня можна сказаць, што Купальле ёсьць самае чароўнае і таямнічае нацыянальнае сьвята, як сівая даўніна, адкуль паходзіць традыцыя пошуку папараць-кветкі ў самую кароткую летнюю ноч. Як заўсёды, на Купальле рэй вяла моладзь. Купальскі вечар пачаўся з выбару галоўных дзеючых асобаў сьвята – Князя Купаліша і Купалінкі. Усе абрады Купальскай ночы выконваліся зь вялікім натхненьнем – распальваньне вогнішча, скокі праз агонь, купальскія вянкі і традыцыйныя пачастункі. І, вядома, сьпевы, яны гучалі да самага сьвітанку.

*Ганна Сурмач*





## Купальле ў Лёндане




23 чэрвеня беларуская грамада Вялікабрытаніі адзначыла Купальле. Брытанскія беларусы пачалі актыўна адзначаць яго з канца 1990-х. "Усё пачыналася яшчэ пры ўдзеле легендарных брытанцаў і вялікіх прыяцеляў Беларусі Веры Рыч і Гая Пікарыды", - распавёў адзін з ініцыятараў сьвяткаваньня Павел Шаўцоў. Этнаграфічна-фальклёрную афарбоўку сьвяткаваньне набыло дзякуючы Караліне Мацкевіч - адной з завадатарак цяперашняй беларускай грамады.

Усяго за некалькі год Купальле стала самым папулярным сьвятам сярод беларусаў Вялікабрытаніі, што збірае нашых суайчыньнікаў ды сяброў Беларусі ў лёнданскім раёне Паўночны Фінчлі.

Цэнтральным месцам абрадавага сьвяткаваньня стала вогнішча – увасабленьне сонца і ўраджаю, як лічылі нашы продкі. Вакол агню вадзілі карагоды, сьпявалі традыцыйныя купальскія песьні, скакалі праз вогнішча ды палілі чучала і купальскае кола.






Кожны ахвочы мог узяць урок беларускіх традыцыйных танцаў і далучыцца да аўтэнтычных сьпеваў. Дзяцей чакала актыўная праграма з традыцыйных беларускіх гульняў. Фотавыстава Сашы Белавокай прадставіла летапіс папярэдніх сьвяткаваньняў Купальля ў Лёндане. Гучала ў гэты вечар і паэзія Веры Рыч.

Паводле старадаўняй традыцыі, купальская ноч у Лондане скончылася пусканнем вогненных вянкоў па вадзе.

## Купальле ў Варшаве



Каб адзначыць гэтае старажытнае сьвята, увечары 21 чэрвеня на беразе Віслы сабралася больш за 20 чалавек.

Вогнішча запалілі наймалодшы і найстарэйшы ўдзельнікі сьвяткаваньня. Пасьля гэтага вакол агню пачалі вадзіць карагоды і сьпяваць песьні. Не абыйшлося і без традыцыйных скокаў праз вогнішча і купальскіх гульняў. Усе ахвотныя таксама маглі шукаць схаваныя скарбы і папараць-кветку, а дзяўчаты — кінуць вянок у Віслу. Сьвяткаваньне Купальля зацягнулася да позьняй ночы.

Зладзілі сьвята для беларусаў Варшавы Фундацыя "Еўрапейская Беларусь" і "Беларуская нацыянальная памяць".

# 15-гадовы юбілей навучаньня беларускай мове ў беластоцкіх школах



6 чэрвеня прайшла галоўная ўрачыстасьць 15-гадовага юбілею навучаньня беларускай мове ў беластоцкіх школах. Заля кінатэатру «Форум» была поўная дзяцей, моладзі, іхных сем'яў і гасьцей. Былі між іншымі Яраслаў Малэцкі - радца міністра ў Міністэрстве адміністрацыі і цыфрызацыі, Аляксандар Сасна - намесьнік прэзыдэнта горада Беластока, Анатоль Вап - дырэктар Дэпартамэнту культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводзтва, Мацей Тэфэльскі - кансультант падляшскага ваяводы па справах нацыянальных меншасьцяў, Анна Пецюль - дырэктар Бюро культуры Управы горада Беластока, Марэк Францкевіч - прадстаўнік Падляшскай куратoры асьветы. Адмысловымі гасьцямі былі Агата Пасэнт - старшыня Фонду імя Агнешкі Асецкай "Акулярнікі" і Ян Баркоўскі - член Рады Фонду "Акулярнікі".

Сьвята пачалося кароткім фільмам, які падрыхтаваў Тамаш Андраюк, карыстаючыся архіўнымі матэрыяламі. Да сьлёз узрушалі старыя здымкі сёньняшніх ліцэістаў і студэнтаў. Затым вядучая імпрэзы Натальля Швед зачытала віншаваньні, якія прыслалі: Івонка Сурвілла - старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Ала Орса-Рамана з Бруклінскага Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью-Ёрку, Вячка Станкевіч - старшыня Рады дырэктараў Фундацыі Крэчэўскага з Нью-Ёрку, Вольга Сянкевіч - шматгадовая метадыст беларускай мовы. Лісты зь віншаваньнямі зачыталі таксама: Яраслаў Малэцкі, Аляксандар Сасна і Марэк Францкевіч.

Яўген Вапа падарыў Аб'яднаньню два прыгожыя банэры зь лягатыпам АБ-БЫ і з мастацкай вывай спэктаклю "Ой, даўно, даўно..." аўтарства Міраслава Здрайкоўскага.

Даклад пра гісторыю навучаньня беларускай мове ў Беластоку ў 1917-2012 гадах падрыхтаваў гісторык Славамір Іванюк.

Мастацкую частку склалі два спэктаклі і музычная праграма ў выкананьні дзетак з I-IV клясаў пачатковай школы і дашкольнікаў, якіх падрыхтавала Анна Васькоўская. Вучні IV-VI клясаў паказалі "Гульню ў Сонную Каралеўну" паводле Зофіі Вуйцік у рэжысуры і перакладзе Аліны Ваўранюк. Гімназісты і ліцэісты захапілі спэктаклем "Станцыя вар'ятаў" на аснове вершаў Агнешкі Асецкай у перакладзе на беларускую мову Аліны Ваўранюк (сцэнар і рэжысура Бэрнард Мацей Баня).

Вучняў, якія вылучыліся працай у адукацыйных праектах нашага Аб'яднаньня і канчаюць пачатковую школу, гімназію і ліцэй, узнагародзілі падарункамі, якія прафінансавалі Радыё Рацыя, тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва", Управа горада Беластока і Аб'яднаньне АБ-БА.

Пад канец на сцэну выбеглі дзеці і моладзь, якія ў гэтым і ў мінулых гадах гулялі ў тэатр. Атрымаўшы падарункі ў выглядзе торбаў АБ-БЫ і новых дыскаў "Сінязорка" усе, а было іх пад сотню, прасьпявалі "Песеньку патрыятычнага Бусла" Леаніда Дранько-Майсюка з музыкай Анны Бабік.

У фае кінатэатру ўсіх чакала падрыхтаванае заўсёды надзейнымі МАМАМІ густоўнае застольле з караваем, тортам, печывам, кавай, гарбатай.

Мерапрыемства было дафінансаванае Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводзтва.

*Ад рэдакцыі: паведамляем нашым чытачам, што група прадстаўнікоў АБ-БА наведае Нью-Ёрк 12 жніўня. Запрашаем усіх ахвотных на сустрэчу, пра якую будзе паведамлена дадаткова.*



# Яблыкі і яблыні: пра нацыстаў і іх дзяцей

Першы канал нямецкай тэлевізіі ARD паказаў дакумэнтальны фільм пра нашчадкаў вярхоўных нацысцкіх кіраўнікоў — «Мая сям'я, нацысты і я» ізраільскага рэжысэра Ханоха Зээві.

У ім ідзецца пра дзяцей і ўнукаў нацысцкіх злачынцаў. Галоўныя героі — унучатая пляменьніца Генрыха Гімлера, дачка камэнданта канцлягеру «Плашув» Амона Гёта(вядомага па фільме «Спіс Шындлера»), унук камэнданта Асьвенціма Рудольфа Гёса, унучатая пляменьніца Германа Гёрынга. Героі дзеляцца сваімі ўспамінамі, сваімі перажываньнямі аб тым, што гэта азначае — быць блізкім сваяком людзей, якія асуджаныя ўсім светам як найгоршыя злачынцы і каты.

Можна сказаць, што некаторыя з гэтых людзей ідуць занадта далёка — унучатая пляменьніца і ўнучаты пляменьнік Германа Гёрынга вырашылі стэрылізавац сабе, каб не працягваць род Гёрынгаў. Сын генерал-губернатара акупаванай Польшчы прысьвячае жыцьцё напісаньню кніг, поўных нянавісьці і зьнявагі ў дачыненьні да свайго ўласнага бацькі. «Калі б я яго сустрэў, я б яго ўласнымі рукамі забіў», — кажа скрозь сьлёзы ўнук камэнданта Асьвенціма пра свайго дзеда.

Такое стаўленьне да родных людзей складана ўмясьціць у галаве. Складана да таго самага моманту, пакуль мы ня ўспомнім, як унук савецкага наркама Молатава, дэпутат Дзяржаўнай думы РФ ад партыі «Адзіная Расія» Вячаслаў Ніканаў падкрэсьлівае, што Напалеон нібыта зьнішчыў больш людзей, чым Сталін, і як гэты чалавек праз 70 год пасля пакта Молатава-Рыбентропа займае пасаду старшыні фонду «Русский мир», што займаецца прасоўваньнем расейскага культурніцкага ўплыву ў замежжы.

Гэтаксама ўнук Фелікса Дзяржынскага ўсхваляе ідэю аднаўленьня помніку «жалезнаму Феліксу» на Лубянскай плошчы ў Маскве і лічыць свайго дзеда, заснавальніка ЧК-НКВД, «героем».

Унук Сталіна Яўгеній Джугашвілі падаў у суд на ліберальную радыёстанцыю «Эхо Москвы» за абразу памяці ягонага дзеда-тырана. На шчасьце, суд Джугашвілі ўсё ж прайграў. Але ёсьць ва ўсім гэтым нешта вельмі, вельмі няправільнае.

Поруч з ветэранамі Другой сусьветнай на 9 траўня па вуліцах постсавецкіх гарадоў маршыруюць сотні ветэранаў НКВД, якія падаўлялі пасьляваенную партызанку і ахоўвалі савецкія канцлягеры ў 40-я — 50-я.

Безьліч генэралаў НКВД і камэндантаў лягераў ГУЛАГ спакойна дажылі да ціхай спакойнай сьмерці на сваіх наменклятурных дачах — возьмем хоць камэндантаў БелБалтЛага Успенскага ці Цімафеева, якія так і не пабачылі зямнога суду і пагатоў шыбеніцы, як іхныя нацыянал-сацыялістычныя «таварышы».

Нямеччына перамагла фашызм унутры сябе. Мы ў Расіі і ў Беларусі свой уласны фашызм так і не перамаглі — ён так і застаецца пераможцам.

*Алесь Чайчыц, "Наша Ніва"*

# Нашы героі пакідаюць нас



Раніцаю 2 ліпеня ў віленскай лякарні заўчасна, ў 47 гадоў, памёр Сяржук Вітушка. Ён быў адным з тых энтузіястаў, хто распачынаў новае беларускае Адраджэньне. У сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя ён быў адным з заснавальнікаў і кіраўнікоМ легендарнай менскай "Талакі" — нацыянальнай моладзевай суполкі, адной зь першых паўпадпольных незалежніцкіх арганізацый у часы СССР. “Талака” ўтварылася ўвосень 1985 году як клюб аховы помнікаў. Займалася ўдзелам у рэстаўрацыйных работах і археалягічных раскопках, аховай помнікаў гісторыі і архітэктуры, змаганьнем за стварэньне беларускіх клясаў і школаў, правядзеньнем экалягічных экспэдыцыяў, культурна-асьветніцкай дзейнасьцю, адраджэньнем народных сьвятаў.

Сяржук Вітушка паходзіў зь мястэчка Чысьць Маладэчанскага р-на, дзе ён нарадзіўся ў 1965 годзе. Там вырас і скончыў сярэднюю школу. Пасьля стаў студэнтам гістфаку БДУ. Пісаў на тэмы маладзёвага руху, аховы помнікаў, краязнаўства, шмат сілаў і здароўя аддаваў грамадзкай працы. У 1991 годзе пераехаў у Вільню, браў самы дзейсны ўдзел у жыцьці беларускай грамады ў Літве, працаваў у беларускай школе, на радыё і тэлебачаньні. Сяржук доўга і цяжка хварэў на дыябет, меў хворыя ныркі і мусіў увесь час быць на дыялізе, жорсткая хвароба няўмольна нішчыла ягонае здароўе і маладое жыцьцё, ён страціў зрок і нагу. Але трымаўся мужна, ніколі ня скардзіўся на свой лёс, не спыніў актыўнае дзейнасьці - арганізоўваў "сьляпыя экскурсіі" для беларусаў па старажытнай сталіцы ВКЛ, працягваў пісаць дзіцячыя казкі і п’есы-батлейкі. У 2011 годзе выйшла ягоная кніга казак "Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі!". Радыё "Рацыя" зафундавала кампакт-дыск на яе аснове. Прээнтацыя гэтага дыску ў Менску стала апошняй імпрэзай зь ягоным удзелам.

Пасьля ампутацыі нагі Сержука перавезьлі жыць у віленскую кватэру Сяргея Дубаўца, што на першым паверсе, бо зь пятага паверху сваёй кватэры Вітушку цяжка было вазіць на штодзённыя працэдуры ў шпіталь. Некалькі дзён таму ў яго здарыўся інфаркт, ён быў у безнадзейным стане і памёр на руках у жонкі Людвікі і дачкі Паўліны, якія апекаваліся ім доўгія гады ягонай слабасьці.

Гэта незваротная страта болем адгукнулася ў сэрцах ня толькі былых “талакоўцаў”, але і ўсіх сьвядомых беларусаў, якія высока шанавалі гэтага мужнага і адданага Бацькаўшчыне чалавека. Адзін зь ягоных паплечнікаў - Сяргей Абламейка выказаў думку, што некалі ў Менску павінен быць пастаўлены помнік Сяргею Вітушку. Можна быць упэўненым, што гэтую думку падзяляюць шмат іншых беларусаў і гэта некалі станецца рэальнасьцю ў свабоднай Беларусі.

У згаданай вышэй кніжцы Сержука ярка выявілася ягоная рамантычная, сьветлая душа, ягонае глыбокае разуменьне сьвету і галоўных каштоўнасьцей у нашым жыцьці.

Падаем тут адну зь ягоных казак пра жывую-мёртвую вадзіцу, што захавала жыцьцё немаўлятку. На жаль, не знайшлося гэтай цудадзейнай вадзіцы для самога Сяргея, каб ўратаваць яго ад заўчаснага расставаньня з намі.

Выказваем шчырае спачуваньне родным Сяргея, а таксама ягоным сябрам -“талакоўцам”, шэрагі якіх апошнімі гадамі панесьлі вялікія страты.

*Ганна Сурмач*




Вокладка кнігі казак Сержука Вітушкі

# Вадзіца жывая і мёртвая

## *Казка пра горкія сьлёзы радасьці*

Жыла-была бедная ўдава. Мужыка ейнага на вайне забілі. Вайна, ведама, справа чартоўская: брат з братам б’юцца да сьмерці, а чорту толькі забава... Засталася ў той удавы адзіная радасьць –сынок малалетні. Усё было б добра, ды здарылася новая бяда. Мала чорту было вайны, дык наслаў ён на той край яшчэ й пошасьць. Столькі людзей паўмірала, проста страх! Прычапілася хвароба і да ўдовінага сына. Занядужаў ён, саслаб зусім – ляжыць у калысцы ледзь жывы. Няма чаго й казаць, як засмуцілася матка. Крыўда й страх пасяліліся ў ейным сэрцы. Горкія сьлёзы і ўдзень, і ўначы сыпаліся з вачэй...

Што толькі ні рабілі людзі ў тым краі – ніякія лекі не ратавалі ад чортавай заразы. Апанаваў усіх безнадзейны адчай. І толькі ўдава тая ніяк не хацела скарыцца. Сказала сабе так: “Хоць увесь сьвет абыду, хоць жыцьцё сваё пакладу, а знайду ратунак дзіцятку роднаму!”

І толькі так сказала – зрабіўся першы цуд. Ціхенька зьляцеў зь неба анёлак і шапнуў на вушка ўдаве: “Шукай вадзіцу жывую-мёртвую”. Шапнуў і зьнік.

Тады хутчэй узяла яна сваё дзіцятка на рукі ды пайшла ў сьвет белы. Пайшла шукаць вадзіцу жывую-мёртвую. Лёгка сказаць – шукаць, але дзе?

Пайшла яна спачатку ў дрымучую пушчу, бо чула, што жыве там вядзьмар. Ён зьбірае ўсялякія зёлкі ды розныя лекі гатуе. Стала ўдава распытваць у яго пра чароўную вадзіцу, але ён пра яе нават і ня чуў.

Пайшла тады ўдава ў вялікі горад, бо казалі, што купцы-багацеі маюць поўна ўсялякіх тавараў. Што праўда – то праўда: якіх толькі тавараў не было ў купцоў! Толькі патрэбнай вадзіцы не знайшлося.

Пайшла яна ў каралеўскі замак, бо падумала, што ўжо хто-хто, а кароль-уладар мусіць мець. Ня меў і кароль-уладар.

Разважыла ўдава: няма ў нас, дык, напэўна, у заморскіх краях знойдзецца. І пайшла яна, і пайшла... і абыйшла кругом сьвету. Абыйшла кругом сьвету і на ранейшае месца вярнулася. Вадзіцы не знайшла.

Ізноў залілася яна пякучымі сьлязьмі. Узмалілася да Боженькі: “Божанька, любы, зьлітуйся. Ты ж бачыш, як я старалася. Я ўвесь сьвет абыйшла, нідзе той вадзіцы не знайшла!”

І тады здарыўся другі цуд. Ціхенька спусьціўся зь неба анёлак і шапнуў ёй на вушка: “ А ты ня звонку шукай, а ў сабе...” Сказаў так і зьнік.

А ўдава зьдзівілася: як жа гэта “ў сабе” ? Прызадумалася. Сьцішылася. Радасна адчула, як б’ецца сэрца яе хлопчыка, якога ўвесь час трымала на руках. У той самы момант штосьць перамянілася – нібы сонечны прамень з-за чорнай хмары бліснуў ды ўсё наўкол праясьніў.

І ў тую хвілю ізноў пырснулі сьлёзы ў яе з вачэй. Яшчэ былі не абсохлі ранейшыя сьлёзы шкадаваньня, а тут новыя сьлёзы – радасьці! Зьмяшаліся тыя сьлёзы разам, упалі з вачэй, абмылі ейнае дзіцятка. І тут здарыўся трэці цуд! Аказалася, што ўдовіны сьлёзы - сьлёзы гора і радасьці – і ёсьць тая самая вадзіца жывая-мёртвая. Мёртвая зьмярцьвіла хваробу, выгнала чортаву заразу, загаіла цела. А жывая ажывіла душу...

Хлопчык той вырас, вывучыўся на мастака. Шмат маляваў, і як прыгожа! Намаляваў аднойчы абраз Багародзіцы. Людзі, як глянулі, зьдзівіліся. Такога харства нікто ў сьвеце ня бачыў. Але галоўнае – пагляд! Як жывая глядзела з абраза Маці Марыя. У ейных вачах было столькі горкага шкадаваньня і ўвадначасьсе столькі радаснага замілаваньня!..

Усе пыталіся ў мастака, як яму гэта ўдалося. А ён так адказаў: “ Мне здаецца, што аднойчы ў дзяцінстве я бачыў Яе твар і быў абмыты Яе сьлязамі...”

# Каляндар памятных датаў на ліпень і жнівень 2012 году

**1 ліпеня** - 200 гадоў таму, у 1812 годзе, Напалеон абвясьціў узнаўленьне Вялікага Княства Літоўскага і стварыў часовы урад ВКЛ

**1 ліпеня** - 85 гадоў таму, у 1927 годзе, нарадзілася Зора Кіпель, бібліёграф, літаратуразнавец, грамадзка–культурны дзеяч эміграцыі ў ЗША

**4 ліпеня** - 40 гадоў таму, у 1972 годзе, у ЗША адкрыўся беларускі рэлігійна-грамадзкі цэнтар "Белэр-Менск" (Глен-Спэй, Нью-Ёрк)

**6 ліпеня** – 10 гадоў таму, у 2002 годзе, памёр Міхась Рагуля (сын Васіля Рагулі), беларускі грамадзкі і культурны дзеяч у Нямеччыне і ЗША

**7 ліпеня** - 130 гадоў таму, у 1882 годзе, нарадзіўся Янка Купала, народны паэт Беларусі

**9 ліпеня** – 100 гадоў таму, у 1912 годзе, нарадзіўся Сяргей Астрэйка, паэт, мовазнавец

**10 ліпеня** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, абвешчана аўтаномія Беларускай праваслаўнай царквы на чале з мітрапалітам Мельхісэдэкам

**14 ліпеня** - 20 гадоў таму, у 1992 годзе, памёр Аляксей Карпюк, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч

**19 ліпеня** – 35 гадоў таму, у 1977 годзе, памёр Іван Любачка, настаўнік, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**20 ліпеня** – міжнародны дзень шахматаў

**25 ліпеня** – 115 гадоў таму, у 1897 годзе, нарадзіўся Міхась Міцкевіч, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША, брат Якуба Коласа

**25 ліпеня** - 15 гадоў таму, у 1997 годзе, памерла Натальля Арсеньнева, паэтка, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**26 ліпеня** – 15 гадоў таму, у 1997 годзе, пачаўся Другі зьезд беларусаў сьвету ў Менску

**27 ліпеня** - у 1990 годзе прынята Дэклярацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

**28 ліпеня** – 115 гадоў таму, у 1897 годзе, памёр Янка Лучына, беларускі паэт

**28 ліпеня** - 110 гадоў таму, у 1902 годзе, нарадзіўся Віктар Вальтар, беларускі пісьменьнік у Латвіі

**28 ліпеня** – 40 гадоў таму, у 1972 годзе, памёр Язэп Гладкі, грамадзкі дзеяч фальклярыст, этнограф, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**28 ліпеня** - 15 гадоў таму, у 1997 годзе, памёр Лявон Луцкевіч, беларускі палітычны, грамадзкі і культурны дзеяч у Вільні, сын Антона Луцкевіча

**31 ліпеня** – 210 гадоў таму, у 1802 годзе, нарадзіўся Ігнат Дамейка, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, філамат, геоляг, нацыянальны герой Чылі

**1 жніўня** – 100 гадоў таму, у 1912 годзе, нарадзіўся Янка Ролсан, грамадзка-культурны дзеяч, паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**4 жніўня** - 95 гадоў таму, у 1917 годзе, нарадзіўся Янка Брыль, народны пісьменьнік Беларусі

**4 жніўня** – 65 гадоў таму. У 1947 годзе, нарадзіўся Мікола Селяшчук, мастак

**5 жніўня** – 240 гадоў таму, у 1772 годзе, прынята Пецярбургская канвэнцыя, паводле якой пачаўся першы падзел Рэчы Паспалітай

**6 жніўня** – 495 гадоў таму, у 1517 годзе, Францішак Скарына выдаў у Празе першую кніжку Бібліі

**6 жніўня** – 135 гадоў таму, у 1877 годзе, нарадзіўся Іван Насовіч, мовазнавец, фальклярыст, этнограф

**8 жніўня** - 35 гадоў таму, у 1977 годзе, памёр Леў Гарошка, асьветнік, уніяцкі рэлігійны дзеяч, гісторык, выдавец, дзеяч эміграцыі

**12 жніўня** – 135 гадоў таму, у 1877 годзе, нарадзіўся Тодар(Хведар) Данілюк, рэлігійны і вайсковы дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстаньня, адзін са стваральнікаў БАПЦ, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**12 жніўня** - 20 гадоў таму, у 1992 годзе, памёр Юрка Луцкевіч, вайсковец, настаўнік,беларускі дзеяч у Вільні, сын Антона Луцкевіча

**13 жніўня** - 90 гадоў таму, у 1922 годзе, нарадзіўся Кастусь Шышэя, дзеяч вызваленчага руху, беларускі грамадзкі дзеяч у Вільні

**13 жніўня** – 10 гадоў таму, у 2002 годзе, у Вільні пачаўся Трэці зьезд беларусаў Балтыі

**19 жніўня** - 100 гадоў таму, у 1912 годзе, нарадзіўся Барыс Мікуліч, пісьменьнік

**23 жніўня** - 165 гадоў таму, у 1847 годзе, памёр Ян Чачот, асьветнік, паэт, фальклярыст, філамат

**23 жніўня** – 95 гадоў таму, у 1917 годзе, нарадзіўся Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі

**23 жніўня** - 25 гадоў таму, у 1987 годзе, памёр Міхась Стральцоў, пісьменьнік, крытык, перакладчык

**25 жніўня** – 80 гадоў таму, у 1932 годзе, нарадзіўся Пятрусь Макаль, літаратар

**25 жніўня** - дзень адраджэньня Незалежнасьці Беларусі, у 1991 годзе Дэклярацыя аб дзяржаўным суверэніцэце наддзены статс канстітуцыйнай сілы.

**27 жніўня** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, нарадзіўся Герман Бокун, адзін з заснавальнікаў беларускай фехтавальнай школы, трэнер вядомых беларускіх фехтавальшчыц

# Студэнт зь Нігерыі стаў настаўнікам беларускай мовы



Ігвэбікэ Тейлар Айке

Студэнт зь Нігерыі Ігвэбікэ Тейлар Айке цяпер можа выкладаць беларускую мову і літаратуру. Ён пасьпяхова здаў экзамены па беларускай мове і літаратуры і методыцы іх выкладаньня ў Цэнтры беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры ў Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце.

Акрамя выступленьня на літаратурную тэму, студэнты на экзамене загадзя распрацоўвалі плян уроку ў школе. Трэба было прадэманстраваць ня толькі тэарэтычныя веды па літаратуры, але і паказаць здольнасьць выкарыстоўваць іх на практыцы, здольнасьць выбраць найбольш эфэктыўныя спосабы і мэтады выкладаньня матэрыялу.

Беларускую мову ў Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце вывучаюць грамадзяне Літвы, але на платным аддзяленьні вучацца пераважна студэнты зь Беларусі. Вучыліся там таксама грамадзяне Гішпаніі, Вялікабрытаніі і Расеі. У гэтым годзе упершыню дыплём атрымаў студэнт зь Нігерыі.

# Комік Саша Барон Коэн родам зь Беларусі



Дыктатар Хафіз Аладын, апошні персанаж Сашы Барона Коэна.

Яму сорак гадоў, у яго жонка і дзьве дачкі. Ён багаты, вядомы і таленавіты.

Сямейная легенда сьведчыць, што ягоны дзед зьехаў з Беларусі ў Вялікабрытанію ў 1880-х, ратуючыся ад пагромаў. Асталяваўшыся на новым месцы, Хаім Барон дадаў да свайго прозьвішча прыдомак Коэн, каб палепшыць саваё паходжаньне. Коэн, ці больш звыклая беларусам форма Коган, азначала прыналежнасьць да роду сьвятароў зь Ерусалімскага храма.

Бацька Сашы Барона Коэна — бухгалтар, а маці і бабуля — выкладчыцы аэробікі. Бабуля, якой цяпер 97 гадоў, выкладала аэробіку яшчэ ў Хайфе (Ізраіль). Бацька меў стандартную мару — убачыць свайго сына юрыстам, але той абраў іншы шлях для самарэалізацыі.

У Кембрыджскім унівэрсытэце Саша Барон Коэн у 1993 годзе напісаў дысертацыю па гісторыі — пра ролю габрэяў у руху за грамадзянскія правы, але больш у гістарычнай навуцы не затрымаўся.

Ён стаў прыдумваць і увасабляць на тэлебачаньні і ў кіно арыгінальныя вобразы, якія адразу зацікавілі самую шырокую публіку ў розных краінах - рэпер Алі Джы, потым Барат, казахскі рэпарцёр, антысеміт і гамафоб, потым Бруна, аўстрыйскі гей, вядоўца праграмы модаў, а цяпер — генерал-адмірал Хафіз Аладын, дэспатычны лідар Рэспублікі Вадзія ў фільме «Дыктатар».

Цяжка паверыць, што Хафіз Аладын, які адказвае на мэйлы, які адзін дзень згаджаецца на інтэрвію, а на наступны адмаўляецца, — усяго толькі выдумка. Але, на самай справе, зусім ня выдумка, а рэальны вобраз, у якім можна пазнаць рысы Саддама Хусэйна, Муамара Кадафі і нарэшце пакуль яшчэ жывога дыктатара, які правіць сёньня ў Беларусі. Таму і забаронена глядзець гэты фільм беларускаму народу.

## СПАЧУВАНЬНЕ

Ад імя Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, ад Бруклінскага аддзелу БАЗА, ад Рэдакцыі нашай газэты выказваем шчырае спачуваньне сп. Уладзіміру Цяліцу ў сувязі са сьмерцю ягонага бацькі Мікалая, які адышоў у вечнасьць у Беларусі на 74 годзе жыцьця.

Вечная яму памяць!

## Падзяка

Я вельмі ўдзячны Парафіяльнай радзе Сабору БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне за тое, што не забыліся пра мяне і не пакінулі без пасьвечанага Велікоднага ячка. Я ж належу да БАПЦ ад 1959 году. Гэты пачэсны падарунак прывёз нам Сяргей Капытка. Дай Божа, яму і ягонай сям'і добрага здароўя!

Я і мая жонка Тэрэса жывём ужо ў сівой старасьці. У дадатак цярплю шмат недамаганьняў і не магу наведваць нашу царкву.

*Алесь Міцкевіч*

( Рэдакцыя выбачаецца перад сп. Міцкевічам, што са спазьненьнем друкуем ягоны допіс, на жаль, так сталася з-за недагляду)



## На выданьне “Беларуса” ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Томас Бёрд | $ 50 |
| Канстанцін і Марыя Варабей | $ 50 |
| Алеся Кіпель | $ 200 |
| Міхаіл Калядка | $ 50 |
| Тацьцяна Красоўская (замест кветак на магілу Мікалая Цяліцы, бацькі Ул.Цяліцы) | $ 50 |
| Сяргей Сарагавец | $ 50 |

Заклікаем і іншых беларусаў папоўніць сьпісы ахвярадаўцаў сваімі прозьвішчамі, каб нашая газэта магла выходзіць у сьвет і надалей

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае:

***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published by

***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**

Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)

Алена Высоцкая - адказная за кампутарную вёрстку

Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі

Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)

Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com

Валеры Дворнік - адказны за друк

Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**

Паштовы адрас:

***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя : *BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.*